Год II. Чэрвень № 7 (17).

# Шлях Моладзі

… „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1930 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 7.




# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . . 4 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год II. | Вільня, — Чэрвень 1930 г. | № 7 (17). |
|---|---|---|

## Пазнаймо свой край.

Прыметай кожнага дасьпелага культурна грамадзяніна ёсьць дакладная знаёмасьць свайго краю, з усімі ягонымі ўласьціваcьцямі, дадатнімі і адʻемнымі Нашага чалавека пры сустрэчы з чужаземцам, напр. Чэхам, Славенцам, Немцам проста задзіўляе іхнае знаёмасьць «напралёт» свайго краю. Кожнае места, мястэчка, а нават значнейшая вёска, кожная рэчка, возера, горка, лясок, значнейшы будынак, усё гэта найдакладней яму знана. Калі ня з уласнай падарожы па краі, дык з апісаньняў тых людзей, што па даных мясцох былі, усё бачылі і бачанае ў славах і абразох апісалі. Паўстала гэтак многалікая краязнаўчая літэратура, сапраўдная скарбніца веды аб даным краі.

Усё гэта ў людзей. Як-жа йнакш і на нашу некарысьць справа гэта прадстаўляецца ў нас на Беларусі, перад усім Заходняй! Знаёмасьць свайго краю рэдка пераходзіць граніцы аднэй толькі гміны (воласьці), ды і то вельмі павярхоўная, здабытая толькі аказыйна, а не праз сумыснае навучаньне Аб сумысных краязнаўчых экскурсіях да апошніх часоў чуваць было вельмі мала.

Адпаведна да гэтага і ўбогая краязнаўчая літэратура аб нашым краі. У беларускай мове: «Географія Беларусі»—Смоліча, пару артыкулаў бяз сыстэмы параскіданых па рожных часопісях — вось і ўсё. Ня шмат больш можна знайсьці аб нашым краі ў мовах іншых. Працы гэтыя аднак шырэйшаму грамадзянству мала даступны, як дзеля мовы, так і дзеля сваей бібліографічнай сягоньня ўжо рэдкасьці. Урэшце, працы гэтыя ў большасьці сваей ужо устарэўшыя і не заўсёды вольныя ад няпрыхільнай для нашага краю тэндэнцыі.

Словам, «куды ня кінь, усюды клін», а краязнаўчыя ведамасьці ў нас трэба будаваць на вельмі скромных асновах. Адчыняецца пры гэтым *поле* да шырокай і *плоднай дзейнасьці нашай моладзі,* перад усім *школьнай,* усе пачынаньні якой мусяць быць кіраваны вучыцелямі, край наш знаючымі і яго разумеючымі. Адважыліся-б мы нават даць думку, каб кожны вучань меў на летнія вакацыі за заданьне сьпісаць напр. народныя песьні з данай ваколіцы, апісаць звычаі (апісаць напр. дзень працоўны і сьвяточны ў селяніна і інш.) і г. д. і г. д. Апрача таго трэба захвоціць вучняў беларускіх школ, каб лучыліся ў малыя групкі па 3-4 чалавекі (пад кіраўніцтвам вучня з старэйшай клясы) і адведывалі розныя і найбольш закіненыя куткі нашай бацькаўшчыны. Акругі, кудой такія групкі мусялі-б прайсьці, мусяць быць згары вызначаны, каб у адзін куток ня зьбіліся ўсе, а ў іншым ня было нікога... Гэтак толькі вёска праканаецца, што Беларусь —гэта ня толькі шэрая вёска, ня толькі сонная мрыя розных газэт, а што гэта сапраўды жывая, магутная сіла, якая ўсё зможа, ўсё пераканае, аж да поўнага свайго вызваленьня.

*В. В.*

# Аб палітычных і грамадзкіх кірунках у мінуўшчыне і сучаснасьці

Палітычныя і грамадзкія кірункі заўсёды цікавілі тых людзей, якія не замыкаліся ў сваёй вёсцы або засьценку, але прымалі ўдзел у тварэньні новага жыцьця. Мы цяпер пераживаем такі час, у каторым людзі змагаюцца за новыя формы народна-палітычнага і грамадзкага бытаваньня і затым высьвятленьне гэтых форм будзе для ўсіх, а асабліва для моладзі, дужа карысным.

Але пакуль мы пяройдзем да агляду розных форм палітычнага і грамадзкага жыцьця, мы павінны выясьніць, што такое палітычнае і грамадзкае жыцьцё і паставім перадусім пытаньне, што такое **палітыка?**

Людзі, асабліва вяскоўцы, пачуўшы аб палітыцы, адразу думаюць як найгорш. Яны часта пракананы, што слова „палітыка“ азначае хітрасьць, подступ і крые ў сабе нейкае ашуканства. Людзі часта глядзяць на палітыку, як на спосаб здабыцьця ўлады і гнібеньня свайго праціўніка — затым на кожнага палітыка глядзяць крывым вокам. Аднак, праўду кажучы, гэткае суджэньне аб палітыцы дужа памылковае: людзі часта бяруць **праявы** палітычнага жыцьця і дзейнасьць некаторых палітыкаў за самую палітыку і затым прыпісваюць самай палітыцы розныя недарэчнасьці.

Дык што такое палітыка?

**Палітыка ёсьць навукай аб тым, як найлепш кіраваць людзкой супольнасьцяй, аб'яднанай у дзяржаўны або які іншы грамадзкі арганізм.**

Каб лепш выясьніць гэтыя словы, мы затрымаемся на хвіліну над тым, адкуль гэтае слова пайшло і што яно азначае?

Палітыка — гэта слова грэцкае. Паходзе яно ад слова „поліс“, што азначае пагрэцку горад, дзяржава, далей грэцкае слова „політэс“ азначае тое самае, што па нашаму грамадзянін (жыхар гораду або дзяржавы), а слова „політікэ“ азначае навуку аб тым, як кіраваць дзяржавай. Дык слова „палітыка“ ў тым значэньні, якое яно мела ад пачатку, ня мае ў сабе нічога заганнага і азначае высокую навуку, як найлепш кіраваць дзяржавай або грамадзянствам.

Калі мы кажам, што палітыка ёсьць высокай навукай, дык мы не памыляемся. Бо калі ў простай вясковай гаспадарцы патрэбна сякая-такая навука і знаёмасьць гаспадарскіх спраў (гэту знаёмасьць у нас пераказваюць бацькі сваім дзецям), то ў дзяржаўнай гаспадарцы гэта знаёмасьць вельмі патрэбна. Гаспадар, калі ня ўмее кіраваць сваей гаспадаркай, давядзе яе да руіны, тое самае і палітычны дзеяч, калі ня ўмее кіраваць дзяржавай. Затым і ёсьць спэцыяльная навука аб кіраваньні дзяржаўным жыцьцём і гэта навука завецца **палітычная эканомія**.

Але палітычным людзям ня толькі патрэбна палітычная эканомія, ім патрэбны і іншыя навукі як географія (навука аб зямлі), соцыялёгія (навука аб грамадзянстве), этнографія (навука аб народах) гісторыя і шмат іншых навукаў, якія павінен ведаць той, хто хоча браць удзел у кіраваньні народам або дзяржавай.

Зразумелая рэч, што тут не гаворыцца аб тых „палітыках“, якія прачытаўшы газэтку або праклямацыю, думаюць, што яны ўжо гатовы вырашаць дзяржаўныя або грамадзкія справы. Хоць, праўду кажучы, і на вёсцы ёсьць талковыя людзі, якія добра разьбіраюцца ў грамадзкіх і палітычных справах. Напрыклад, чалавек інтэрэсуецца грамадзкім жыцьцём сваей гміны, крытыкуе пастановы гміннай рады, паказвае, як можна было-б лепш павясьці гмінныя справы, бярэ

ўдзел у гмінных выбарах і г. д. — аб такім чалавеку можна сказаць, што ён палітык. Ідзём далей. Калі такі чалавек бачыць справу ня толькі сваей гміны, але і цэлай дзяржавы, ці ўсяго народу і калі той чалавек выказвае памылкі ўраду і падае спосабы лепшага кіраваньня дзяржавай — той чалавек ужо ёсьць ня толькі гмінным палітыкам, але народным або дзяржаўным.

Як бачым, з кожнай палітычнай дзейнасьцяй зьвязаны адзін варунак: каб чалавек, які займаецца палітыкай, ня толькі крытыкаваў другіх, але падаваў лепшыя спосабы, як трэба наладзіць жыцьцё (сваю праграму). Такі-ж чалавек, які толькі крытыкуе, а не падае спосабаў направы жыцьця, завецца дэмагог (крыкун).

Ведаючы, што такое палітыка, мы пяройдзем цяпер да выясьненьня розных палітычных кірункаў.

Ад самага пачатку істнаваньня роду людзкога быў паміж людзьмі нейкі парадак, нейкі лад, паводле якога яны жылі. Без парадку, без ладу жыцьцё людзкое было-б немагчымым. Затым у гісторыі чалавецтва мы бачым розныя лады: бачым лад, абапёрты на ўладзе аднэй асобы: адна асоба камандуе, а ўсе мусяць слухаць (монархізм); ізноў-жа здараўся лад, які апіраўся на тым, што камандавалі грамадзянствам адзінкі (арыстакрацыя або олігархія); ёсьць лад, які апіраецца на волі ўсяго народу, пры роўнасьці ўсіх грамадзян (дэмократызм); цяпер выдумалі новы лад, які дзяржыцца на загадах аднэй партыі, каторая пры помачы сілы хоча накінуць сваю волю ўсяму народу (камунізм, фашызм); ёсьць ізноў кірунак, які непрызнае ніякай улады і ніякага прымусу (анархізм) — словам ёсьць многа формаў палітычнага жыцьця, аб якіх мы будзем гаварыць у наступных артыкулах.

Парадак артыкулаў будзе такі 1) монархізм, 2) дэмократызм, 3) арыстакратызм, 4) камунізм, 5) фашызм і 6) анархізм.

**Ваг.**

---

# Крыху з нашай гісторыі.

### Зносіны крывічоў з Грэкамі.

Дзіўна на першы пагляд, што Крывічы маглі мець нейкія зносіны ці сутычку з Грэкамі, якія жылі на Балканах. Як даведываемся з летапісяў, старых гістарычных дакумантаў і розных археолёгічных раскопак, што сапраўды Крывіцкія плямёны ў пэўным часе сутыкаліся з Грэкамі. Гэта адбывалася такім чынам.

Грэцкія купцы вельмі даўно ўжо знаді водны шлях па Дняпру і Дзьвіне да берагоў Балтыцкага мора. Гэтым шляхам Грэкі езьдзілі на ўзьбярэжжа Балтыцкага мора за рож-

ными таварамі, якіх у іхным краю ня было. Між іншым адсюль яны вывозілі бурштын.

Грэцкія багатыя калёніі ў Крыме з гарадамі: Хэрсонэсам, Тэадосіяй, Пантыкапэяй, Фанагорыяй, Танаісам і інш., аб чым сьцьвярджаюць знаходкі грэцкіх манэт, высылалі сваіх купцоў у крыўскія землі ўжо ў V—VI в. па Н. Х.; ёсьць прыпушчэньне, што яны нават мелі тут свае сталые тарговыя пункты-факторыі. Смаленск, каторы Грэкі зналі пад назовай Мілітэск, быў у VIII в. галоўным тарговым цэнтрам для абмену тавараў, якія прыходзілі з Грэцыі па Дняпру, з Баўгарыі, Хазарыі і Пэрсіі па Волзе і Дону і са Скандынаўскага паўвострава па Дзьвіне і Волхаве.

І толькі тады гэтыя гандлёвыя зносіны Крывічоў з Грэкамі пачалі памалу спыняцца, калі Варагі—Русь пасяліліся на сярэднім Дняпры, у Кіеве. Гандаль Грэкаў з Крывічамі перайшоў у рукі Кіеўскіх Варагаў — Русі. А дзеля таго, што наддзьвінскія крыўскія землі ўтрымалі сваю незалежнасьць, то і тарговы шлях „З Вараг у Грэкі“, абмінаючы Дзьвіну, пайшоў з Кіева праз Волхаў і Ноўгарад у Фінскую затоку.

Вось такія дужа даўныя адносіны і знаёмства Крыўскіх плямён з высокакультурнай і хрысьціянскай Грэцыяй адыгралі вялікае значэньне ў гісторыі культурнага разьвіцьця Крывічоў, Вялікі грэцкі культурны ўплыў на Усходніх Славянаў вельмі прычыніўся да таго, што хрысьціянства было вельмі рана занесена праз Грэкаў у Крыўскія землі.

Скандынаўскія сагі (аповесьці) падаюць, што яшчэ да афіцыяльнага прыняцьця хрысьціянства праз Крывічоў, існавала недзе ў ваколіцах Полацка, на гарэ, цэркаўка Пр. Багародзіцы (гэтая зацемка ёсьць у „Рѣка Западная Двина“ — Сапунова). З гэтага бачым, што да X в. між Крывічамі, а таксама і ўсходня-славянскімі плямёнамі, хрысьціянства было ўжо добра ведама. Ведама была таксама Славянам і тая высокая культура Грэцыі. Вось такім чынам хрысьціянства усходняга абраду прыходзіла з Грэцыі да Славянаў.

Хрысьціянства-ж заходняга абраду прыходзіла да Славянаў праз варажскія княжыя дружыны, якія прыходзілі і пасяляліся на Славянскіх землях, або праходзілі праз гэтыя-ж землі. Усходнія грэцкія ўплывы прыхадзілі да Крывічоў і наагул Усходніх Славянаў праз паходы на Грэцыю і службу варажскіх дружын у Візанцыю, а таксама і праз запраданых у грэцкія землі, нявольнікаў, якія з часам нейкімі спосабамі вярталіся на бацькаўшчыну.

Такім чынам бачым, што хрысціянства ўжо здаўных часоў пранікала ў жыцьцё Крывічоў і гэтым падгатаўляла сабе грунт, каб у першы лепшы мамэнт настала ўсеагульнае прыняцьце хрысьціянства.

І так не задоўга сталася—Славяне прынялі хрысьціянства. Як гэта адбывалася, будзе пазьней напісана, а цяпер вернемся да старадаўнай культуры і вераваньняў тагачасных Крывічоў.

## Культура матэр'яльная і духовая старадаўных Славян.

Побач з выступленьнем Славянаў на арэну гістарычную, выступае і культура іхна матэр'яльная і духовая. Ад пачатку іхнага існаваньня, існуе так-жа і культура характэрызуючая тагачасную гістарычную эпоху.

С пачатку Славяне жылі ў горных пячэрах каторыя можна і сяньня бачыць у рожных ваколіцах Славяншчыны, дзе ёсьць горы. Будаваны былі таксама памешканьні на вадзе, у каторых жылі Славяне, забеспечаючыся такім чынам перад дзікімі зьвярамі. Гэтыя „надводныя памешканьні" былі абудаваныя так: па рэках, або вазёрах у дно ўбівалі шмат калоў, на якіх масьцілі мост, а пасьля на гэтым памосьце будавалі дзеравяную будыніну і там жылі, асабліва ў начы мелі там сход. І толькі ўжо шмат пазьней пачалі будаваць дамына зямлі.

Для абароны перад наездам непрыяцеля пачалі Славяне будаваць гарады (абгароджаныя месцы), спачатку невялікія, а пазьней большыя, для іх выбіралі недаступныя месцы (горы, астраўкі рэчныя і вазёрныя, месцы сярод багністых балот), акружалі іх валамі і каменьнямі.

Розныя неабходныя прылады Славяне выраблялі спачатку з неагладжанага каменя, гэты час называецца эпохай палеолітычнай, а пазьней з гладжанага—шліфованага каменя і гэтая эпоха называецца—нэолітычнай. Пасьля наступіў час, калі Славяне навучыліся гэтыя рэчы вырабляць з мэталяў—і гэтая эпоха ў гісторыі называецца эпохай бронзы. Аб усім гэтым добра сьведчуць археолёгічныя адкопы і вынаходы.

Культура духовая ў старадаўных Славянаў таксама стаяла досіць высака. Аб гэтым выразна сьведчуць перадусім іхныя паняцьці рэлігійныя, з якіх вынікае, што ў Славянаў было даволі высака разьвіта пачуцьцё этычнае, бо верылі ў несьмяротнасьць душы чалавека. Як усе Арыі, так і Славяне прызнавалі і славілі ў багох увасабленьне сіл прыроды. Весткі аб Славянскай рэлігіі вельмі недакладныя дзеля таго, што яны паходзяць пераважна з тых часоў калі гэтая рэлігія ўжо ўпадала. Пісалі аб гэтым хрысьціянскія духаўнікі, якія працавалі на славянскіх землях і якія, як чужаземцы, ня зналі славянскае мовы і народу, дык не маглі ўсяго чэрпаць з першапачатнага жарала праўды.

**М. Пяцюкевіч.**

(далей будзе).

# Куток для спорту.

## Плаваньне.

Плаваньне ёсьць адным із найстарэйшых спортаў, катораму мусіў аддавацца ў барацьбе за існаваньне першабытны чалавек. У гісторыі Славянаў можна знайсьці ўспаміны аб тым, што яны дасканальна ўмелі хавацца пад вадой, пры гэтым аддыхалі праз выдаўбленую трасьціну, трымаючы зубамі адзін канец яе ў вадзе — другі пад вадой. Гэта даказывае, што нашыя прэдкі чуліся свабодна на вадзе, дзеля чаго, разумеецца, мусілі ўмець плаваць. Дый цяпер рэдка хто з беларусаў-мужчын ня ўмее плаваць.

Плаваньне ёсьць галоўным водным спортам і сьмела можа называцца ідэальнай усестаронняй гімнастыкай усяго нашага цела. Плаваньне складаецца з рухаў рук, ног і тулава; паасобныя рухі цела тут ёсьць у рытмічнай між сабой згодзе і абымаюць большую частку ўсяго цела. Гэты спорт ёсьць неабходна патрэбным кожнаму чалавеку, бо ёсьць карысным, як з боку развою мускулаў, так і з боку здароўна-гыгіенічнага і практычнага.

Чалавек, ня ўмеючы плаваць, самахоць наражаецца на сьмерць там, дзе другі — плывак можа сабе свабодна адыхаць, ужываючы з прыемнасьцю плаваньня, як гімнастыкі і здаровай разрыўкі. Праяжджаючы лодкай, навет праз невялікую раку, у выпадку вывarату лодкі, ня ўмеючы плаваць можа ўтапіцца, тады, як другому гэта было-б толькі маленячкім, годным сьмеху, здарэньнем.

Ня кожны чалавек можа аднолькава лёгка трымацца на вадзе. Таму, хто мае большыя і здаравейшыя лёгкія лягчэй плаваць, бо ў такога грудная клетка будзе мець больш паветра, якое павялічыць аб'ём цела, не павялічваючы яго вагі, а ведама, што кожнае цела будзе плаваць па вадзе тады, калі яно выцісьне сабою вады больш, чымся само важыць. Чалавечае цела ёсьць цяжэйшае ад выцісьненай ім вады, але пры напоўненых паветрам здаровых лёгкіх цяжар выраўноўваецца і цела можа не тануць.

Тлустаму чалавеку таксаиа лягчэй трымацца на вадзе, бо тлустасьць павялічвае аб'ём цела, а сама ёсьць лягчэйшая ад вады. Пры добрым здароўі і ўменьні плаваць можна свабодна і доўга трымацца на вадзе і пераплываць даволі далёка. На глыбокіх водах кожны плывак павінен аднак захоўваць усе спосабы асьцярожнасьці на ўсякі выпадак, бо як жыцьцё паказуе, дык шмат добрых плывакоў, паміма іх пэўнасьці, часта топяцца.

Узяўшы ўсё сказанае пад увагу, беларуская моладзь павінна карыстаць з летняга сэзону, аддаючыся так прыгожаму і здароваму спорту, як плаваньне. Калі яшчэ хто ня ўмее плаваць, хай зробіць неадзоўную пастанову навучыцца, а не пашкадуе гэтага, бо ня раз мо' ў жыцьці гэта прыдасца, а навет можа і выбавіць ад сьмерці.

**У. Казлоўшчык.**

# Літэратурны аддзел.

## ЖЫЦЬЦЁВЫ ШЛЯХ.

Мятусяцца думкі ў краіне пражыцьцяў,
ў вачох стаіць мною прабыты ўжо шлях;
сілюся ўгадаць я шлях новых прабыцьцяў,
жыцьцёвае сьцежкі далейшы працяг.

Хачу разгадаць я, якія дарожкі
прыдзецца ў далейшым жыцьці мне прайсьці?
ці будуць мо' ліцца па іх мае сьлёзкі,
ці будуць мо' краскі на іх мне цьвісьці;

ці хопіць мне сілы змагацца з віхурай,
ламаць будаваны праз злыдняў мне плот,
ці мо' не змагу я там цемры панурай,
жыцьця майго сьвечкі прарвецца мо' кнот...

Якая-б ня была ў жыцьці мне дарога
і сколькі-б равоў не капала судзьба —
—я знаю, што прыдзе тады мне падмога,
як будзе вясьціся мая барацьба.

**Казлоўшчык.**

## ВАСІЛЬКІ.

Васількі ўжо сьмяюцца ўкола
На родных палетках цьвітуць:
Гамоняць і шэпчуць вясёла
І гэтак у летку жывуць.

Днём сонейка з імі гамоніць
І міла ўсьміхаецца ім;
Ад холаду ўсьцяж іх бароніць
І цешыць так зрокам сваім.

І ночка малая таксама
Нястрашна для красачак тых;
Пільнуе, як родная матка
Міленькіх дзетак сваіх.

Дае ім расіцу мядову,
Калыша ў зэфіры пахнючым усіх,
Сьпяваючы песьню ліпнёву
З мэлёдыяў пекных сваіх.

І так васілёчкі ўжо спалі,
Скланіўшы галоўкі к сабе;
Лісточак лісточка абнялі
І мроілі шчасьце у сьне.

Мне хочацца краскаю быці
І так, як яны расьцьвітаць,
Хоць мала на сьвеце пажыці,
А шчасьце—каб толькі пазнаць...

**Марвіч.**

## ЧАМУ ТЫ ТАК МІЛА...

Чаму ты так міла мне родная вёска,
Чаму ты так міла мне родная хатка—
І тая каля хаты бярозка,
І тыя казкі, што баяла матка?!
Чаму вы так мілы мне, родныя сьцежкі,
Па каторых я ў дзецтве хадзіў —
І тыя тучы, быстрыя рэчкі,
У каторых купаўся, з каторымі жыў?!
Ніколі пра вас не забуду,
Колькі на сьвеце буду я жыць,
Душой злучаны з вамі я буду,
Душой вечна вас буду любіць.

**Леанід з пад Вішнева.**

## МАЛІТВА.

О Ты, што кіруеш на небе і тут
І знаеш мужычую долю —
Пашлі у запушчаны, цёмны наш кут
Людзям сваім даўную волю!
Ты відзіш з высокіх і сьветлых нябёс
Загнаных нядолей мучэньня
І знаеш, як часта мінае лёс —
Пашлі-ж ім цяпер ўваскрашэньне.
О Божа вялікі! ад нашай зямлі
Шчасьце кудысь адляцела —
Ты змучаным працаю волю пашлі,
Нам шмат у душы набалела...

**Ар—Ар.**

## АДЫДЗІ!..

Адыдзі!.. Не глядзі!.. Я баюся цябе!
Нейкім чарам дзіўным ўладаеш!
Бо як толькі ты глянеш калі на мяне,
Дык за сэрца балюча хапаеш.
І прykованы так воблікам вочак тваіх,
Дзень і ноч я-б стаяў прад табою,
І пакінаў-бы ўсё і адрокся-б сваіх,
І пайшоў-бы у сьвет за табою.
Гэткі чар маеш ты ў сваіх дзіўных вачох,
Нешта злое ён мусіць прароча...
Не глядзі!.. Адыдзі!.. Сэрца б'ецца ў грудзёх,
Быццам выскачыць стуль яно хоча!..

**С. Гаротны**

## ДА МОЛАДЗІ.

Гэй, прачніся ты, моладзь вяскова,
Годзі гэтага доўгага сну,
Будзь заўсёды адважна й гатова
Бараніці старонку сваю.
Каб заўсёды была яна ў згодзе
І дабілася лепшае долі,
Піць гарэлкі табе ужо годзі—
Тады выйдзеш свабодна з няволі.
За навуку цяпер ты бярыся
І часопісь сваю пашырай,
А з суседам сваім не сварыся —
Разам родныя песьні сьпявай!..

**І. Ярошка.**

## ДА СОНЦА.

О, сонца! поўнае ласкі,
Пацехі і радасьці шмат,
Ты, што гадуеш ўсе краскі,
Заглянь ты пад стрэхі тых хат,
Што туляцца ціха да бору
Спавітыя ў цьмяны туман,
Дзе людзі разьлілі слёз мора,
Плыве кроў з адноўленых ран!
Пацеш ты іх засмучоных,
Надзею у сэрца улі,
І жарам косак чырвоных
Іх гора згубі, распалі!

**Г. Кучка.**

## ОЙ ПАВЕЙ ТЫ, ВЕЦЕР!

Ой павей ты вецер з роднае старонкі,
Прынясі ты весткі для мяне блазноткі,
Як жывець там у дому, як працуе бацька,
Што браты гавораць і ці плача матка.
Ой павееў вецер, ой павееў буйны,
Ой прынёс ён вестку мне бязконца нудну:
Што памёр мой бацька,
А браты ў вастрозе
За якуюсь справу, й казаць нягожа.
Матка зноў нядужа, з бяды падупала
І скаціна ў хлеве з голаду прапала —
Ой, што-ж мне рабіць беднаму блазнотку?
Абярнусь я ў хмарку, хмарку сьлязавую —
Ой гані-ж ты, вецер, у вёску дарагую.
Над роднай краінай сьлязой разьліюся
І з зямелькай роднай навекі злучуся.

**Т. Асіповіч.**

## ПРАДМОВА ДА „ЎСПАМІНАЎ“.

* * *

То ня песьні
На прадвесьні
Паляпшэньня людзкіх спраў,
Не, крый Божа,
Я прыгожа
Іх ніколі не сьпяваў,
Бо прыбіты
І спавіты
Горам, шчасьця я ня знаў.
То ня песьні
На прадвесьні
Лепшай долі, лепшых зьяў.
Гэта думкі
І малюнкі
Родных вёсак і іх спраў.
Мой бяз сілы
Лёс нямілы
Не пазволіў мне дапяць
Сваей мэты
І сьвет гэты
Вачмі шчасьця аглядаць.
Я кручуся
Й грудзьмі б‘юся
У віры таго жыцьця
Дзе ня грэе
Ужо надзея
Знайсьці ўвагу пачуцьця.
Але зьявы
Роднай справы
Я пасьмею запісаць
На паперу...
І дам веру
Што іх будзе хтось чытаць.

### УСПАМІНЫ

(Абразкі з праўдзівасьці)

Пануры хмурны час асеньні!..
Ты паганяеш сабой цені,
На яркія прыроды ўзоры.
Ты адмяніў кругом прасторы,
Лясы, лугі ты абяскрасіў
І толькі памяць засталася
Ад веснавых перажываньняў
Напоўненых жыцьцём—каханьнем...

Цяпер-жа ўсё свой від зьмяніла,
Аднак-жа ў думках маіх міла
Абраз мінуласьці лунае
И душу красою захапляе.
(д. б.).
**Ю. Сяргіевіч.**

## НАРОДНЫЯ ПЕСЬНІ.

Запісаныя С. М. у м. Казяны, п. Брасл.)

Чаго селезень смуцен, ня весел?...
—чаго селезень смуцен, ня весел?
—Як-жа мне жыці, вясёламу быці?
Учора зьвячора вутачка была,
Сягоньня зраньня застралёная.
Ня жаль-жа было-б, каб на вадзе,
А то на полі, на сухадолі.

Церас бор, бары, бары...
Цераз бор, бары, бары,
Цераз цёмныя лясы,
Шэры гусі ляцелі,
Лятучы шчабіталі:
—Ды дзе-ж мы будзем начаваці,
Што будзем жыраваці?
—Ды мы ў бары заначуем,
На мяжы зажыруем.
У бары брусьнічанку,
На мяжы пшанічаньку.

# Сенакос.

Найвесялейшы час улетку — гэта пара сенакосу. Здаецца, толькі зазелянее траўка і пачне падымацца з кожным днём уверх, аж тут ужо на яе бяднягу вострацъ тысячу кос.

Цяжка! О, як цяжка жыці гэтай бедненькай траўцы, якая так пекна аздабляе цэлы сьвет. І здавалася-б, нашто-ж на яе вастрыць коску, ці яна каму робіць шкоду? Не, наадварот, кожды ёю любуецца, як маці сваім родным дзіцём, якое толькі паўстае на ногі і пачынае хадзіць. Любуюцца гэтай траўкай і гэтымі прыгожа-цьвітучымі красачкамі ня толькі чалавек, але і розныя істоткі Боскія, пачынаючы ад маленькай і канчаючы самай найбольшай. Сапраўды, усе любуюцца ею!

І наш селянін любуецца гэтай траўкай, каторая служыць для ягонай скацінкі, якую трэба пракарміць у сьцюдзёна-маразістую зімку.

Вось настаў час касьбы. Мужчыны раненька ўстаюць, клепяць свае коскі і чым-скарэй сьпяшаюць на сенажаці, каб як найбольш умахаць да сьнеданьня, бо пасьля, як сонейка вышэй падоймецца і мацней прыпячэ, тады ўжо трэба сушыць. Вясёлы час! І які яшчэ вясёлы! Льюцца песьні, разносяцца крыкі па сёлах і па палёх, чуецца нейкая радасьць чалавечага жыцьця.

Пад вечар, як маладыя, так і старыя, усе як адзін з граблямі і вілкамі сьпяшаюць, каб да захаду сонца злажыць сена ў копкі, або нават і дамоў забраць, бо кожны з вялікай радасьцяй чакае, каб як найскарэй пайсьці ў гумно на пахучае сенца спаць.

Так вось, людцы мілыя, усе любуюцца, усе веселяцца гэтай прыгожанькай зялёна-пахучай траўкай. А ці-ж радуецца траўка? Былі часы, калі і яна магла палюбавацца сонейкам, і на людцоў ня раз заглядала міленька. Але вось прышла па яе сьмяротная каса, скасіла ёй галоўку і так мусіла мо' і бяз пары памерці!

Так бывае і з чалавекам: жыве, змагаецца з рознай бядой, горам і няшчасьцем, аж раптам з-за вугла выскача каса—сьмерць, здойме галаву і мусе ён расставацца з гэтым сьветам і адходзіць у вечнасьць...

**Янка Ваўштолскі.**

# Лісты.

## ДАМАГАЙМАСЯ РОДНАЕ ШКОЛЫ.

**м. Лоск,** Валожынскага пав. Мястэчка Лоск, а сапраўды вялікая вёска—гэта адзін з найглушэйшых, цёмных і нясьведамых куткоў нашага краю. Ёсьць тут касьцёл, царква і ўрадавая школа ўжо будуецца, аднак гэта мала чамусьці прычыняецца да падняцьця культуры.

Жыхары-сяляне пасьля ваенных зьністажэньняў жывуць бедна. Беларуская нацыянальная сьведамасьць пашыраецца вельмі павольна з прычыны таго, што ў нас няма такіх адзінак, каторыя маглі-б яе пашыраць.

У прошлым годзе думалі нават некаторыя сяляне складаць дэкляракцыі на беларускую ўрадавую школу. Знашоўся-ж нават з суседняе вёскі Юраўшчына адзін сьведамы чалавек, які хацеў памагчы ў дамаганьнях роднае школы добрай радай і гарачым заклікам. Аднак да здейсьненьня не дайшло.

Аж сорамна пісаць, што нашы людцы не дамагаюцца так патрэбнае для сваіх дзетак беларускае школы, якая мае даваць асьвету для беларускіх дзетак.

Памятайма, што ня трэба чакаць і адкладаць гэтае так важнае справы; мы мусім, мы павінны дамагацца роднае беларускае школы для сваей беларускай моладзі—гэта наш абавязак. Дык кожны бацька павінен дастаць дэклярацыю,

запоўніўшы яе заверыць у войта і падаць школьнаму інспэктару з просьбай аб адкрыцьці беларускае ўрадавае школы.

Памятайма, што толькі родная школа ўзгадуе дзяцей вашых на людзей разумных, чэсных, шануючых бацькоў і сваю родную мову, якія будуць рупіцца аб паправе быту свайго краю і свайго Беларускага народу. **Тутэйшы.**

АД РЭДАКЦЫІ. Усялякія інструкцыі і друкі аб дамаганьні беларускае школы можна выпісаць бязплатна з Цэнтр. Ураду Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Вільні, Людвісарская вул. № 1.

## КІРУЮЦЬ НА БЛАГУЮ ДАРОГУ.

**Вайніловічы**, Нясьвіжскага пав. Паміма таго, што беларуская нацыянальная сьведамасьць пашыраецца па ўсёй Заходняй Беларусі, аднак аб нашым кутку гэтага ня можна сказаць. Галоўнай перашкодай, на шляху да самаўсьведамляньня зьяўляюцца „Колы Млодзежы Польскай,“ каторыя „ловяць рыбу ў мутной вадзе“, не праводзячы абсалютна ніякае культурнае працы, хоць арганізатары іх хваліліся, што будуць арганізаваць курсы пазашкольнае асьветы і інш. Арганізатары гэтых колаў так паперакручвалі ў галовах моладзі, што яна, вышаўшы з дому, стыдаецца гаварыць па беларуску, пяяць свае родныя беларускія песьні, стыдаецца бацькаўскіх абычаяў і г. п., адным словам выракаюцца ўсяго свайго роднага, хапаючыся за нанесенае польскае, перакручваючы яго так бязлітасна, што з гэтага выходзе „ні хорт, ні выдра“, як прыказка кажа.

Аднак ня можна гэтага сказаць аб усіх: ёсьць і такіх, каторыя не даліся ашукаць сябе польскім панам і не належаць да польскіх колаў, або павыходзілі адтуль, бачачы для сябе згубу.

Я хачу зьвярнуць увагу нашых нясьведамых засьляпенцаў на тое, што выракаючыся свайго роднага і насьміхаючыся з яго, як гэта было на зборышчы ў в. Вайніловічах, калі сьведамыя людзі радзілі чытаць свае газэты, належаць да свае арганізацыі, — вы нічога добрага ня зробіце, а толькі згубіце самі сябе, бо трэба ведаць, што ніколі чужынцы не стараліся паправіць жыцьця для сваіх падданых і ня будуць старацца, мы гэта самі павінны рабіць праз свае беларускія арганізацыі.

Пара ўжо было-б, здаецца навучыцца, як трэба жыць і як сябе пакіраваць.

Усе, як адзін павінны мы працаваць у беларускіх арганізацыях, напр у Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры, залажыўшы гурток гэтай арганізацыі. Нікому-ж з беларускае моладзі няможна быць у польскіх „колах млодзежы“.

**Вясковы.**

# Хроніка.

**Следзтва ў справе канфіскаты „Шляху Моладзі“ № 4 (14).** 20 г. м. сьледчыя ўлады дапрашвалі рэдактара нашае час. Мар'яна Пяцюкевіча ў справе канфіскаты „Шляху Моладзі“ № 4 (14).

**Люстрацыя гурткоў.** Др. Ст. Грынкевіч 24 г. м. выехаў на люстрацыю гурткоў Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры ў Браслаўскім, Дзісьненскім і Вялейскім паветах. У некаторых гуртках др. Ст. Грынкевіч прачытае навукова-папулярныя лекцыі.

**Трэцяе паседжаньне Беларуска-Літоўскага Кат. Камітэту** адбылося 21 г. м., на якім паміж іншым пастаноўлена: просьбу Жодзішных парахвіян аб увядзеньні беларускае мовы ў дадатковыя набажэнствы і казаньняў пабеларуску ў Жодзішны касьцёл, падпісаную больш 1000 асобамі, выслаць да Нунцыя Сталіцы Апостальскай ў Варшаве.

**Сабор Праваслаўнае Царквы.** Прэзыдэнт Польшчы выдаў дэкрэт аб скліканьні Сабору Праваслаўнае Царквы ў Польшчы.

**Уневажненьне выбарнага сьпіску.** На днях ўніважнена выбарчы сьпісак Бел. Сял.-Раб. Пас. Клюбу „Змаганьне“, выстаўлены на выбары ў Сьвянцянскім вокрузе.

**Беларускія матурысты.** У выніку закончыўшыхся ў г. м. матуральных экзаменаў пры Віленскай Беларускай Гімназіі, матуру атрымала 17 асоб. З вучняў матуру атрымалі: Лявон Галяк, Зоя Гур'янава, Мікола Кунцэвіч, Сяргей Мацук, Міхал Маркевіч, Наталя Патомская, Рагвалод Рак-Міхайлоўскі, Уладзімір Рудніцкі, Анатоль Сакалоў, Вітальд Тумаш, Міхал Вітушка, Эма Залкінд, Піліп Засім; з экстэрнаў: Уладзімір Казак, Хведар Ільяшэвіч, Альбэрт Мюльлер і Сяргей Яцкевіч.

Усім матурыстам жадаем пасьпеху ў далейшых навуках і грамадзкай працы на карысьць Бацькаўшчыны Беларусі.

**Дапамога.** Віленскі магістрат асыгнаваў аднаразовую дапамогу для Беларускага Музэю ў суме 1.500 зл.

**Прэзыдэнт Польшчы Ігнат Масьціцкі на „Крэсах Всходніх“.** У гэтым месяцы зьведвае Беларускія землі, а папольску „Крэсы Всходне“ Прэзыдэнт. Польшчы Ігнат Масьціцкі, які паміж іншым быў у Віленскай Бел. Гімназіі і ў Беларускім Музэю.

Пасьля таго аднак, як было агалошана ў газэтах, што прэзыдэнт адведаў беларускую гімназію і музэй, Польскае Тэлеграфічнае Агенства выдала афіцыяльны камунікат, у якім падана, што прэзыдэнт у праграме свайго пабыту ў Вільні, ня меў на мэце адведваць беларускую гімназію і музэй. Але ў той час, калі ён прыехаў адведаць лёкаль „Звёнзку Польскіх Літэратаў“, які мясьціцца ў гэтым самым будынку, што

І гімназія з музэям, дыр. Астроўскі спаткаў Прэзыдэнта і сказаў прывітальную прамову, як пішуць газэты „ў ляяльных славах“, запрашаючы адведаць Беларускую Гімназію і Беларускі Музэі. Прэзыдэнт адведаў.

**З жыцьця братняга ўкраінскага народу.** У Львове адбываецца цяпер вялікі працэс над Украінскай Вайсковай Арганізацыяй. Некалькім асобам гразіць сьмяротная казьнь.

**Новыя Кніжкі.** Нядаўна вышла з друку вельмі добра апрацавана кніжка Кс. В. Гадлеўскага п. н.: „Historyja Świataja abo biblijnaja Staroha zakonu“. Кніга абымае 160 стр., мае 44 малюнкаў, дзьве карты і каштуе ўсяго 2 зл. Галоўны склад: кнігарня „Пагоня“, Вільня, Людвісарская вул. 1.

— Выйшаў з друку „Каталёг“ — сьпіс беларускіх кніжак і інш. друкаў Беларускае Кнігарні „Пагоня“ ў Вільні. Каталёг на просьбу высылаецца бясплатна.

**„Проч з ліхазельлем“** Пад такім загалоўкам вышла з друку ў Вільні аднаднёўка ў беларускай мове, якая вельмі востра выступае проціў Віленскай Праваслаўнай Кансысторыі і расейскага праваслаўнага духавенства, не абмінаючы і Віл. архіепіскапа Хвядоса.

**З Польшчы.** У другой палове г. м. Прэзыдэнт закрыў надзвычайную сэсію Сойму і адлажыў на 30 дзён надзвычайную сэсію Сэнату. З гэтае прычыны 29 чэрвеня „Цэнтралеў“—польскія апазыцыйныя да ўраду партыі склікаюць у Кракаве „Кангрэс абароны права і народнае свабоды“. У гэты дзень да Кракава маюць прыехаць на экскурсію стральцы (пілсудчыкі). Ходзяць так-жа чуткі, што „цэнтралеў“ зажадае яшчэ раз склікаць надзвычайную сэсію Сойму, калі яго наднях не распусьцяць.

**З заграніцы.** — У Румыніі нядаўна быў пераварот. Справа ў тым, што князь Кароль, каторы ў сваім часе дзеля гулянак, кінуў другую ўжо праўную жонку з сынам, адмовіўся быць каралём Румыніі і выехаў заграніцу. У гэтым-жа месяцы на самалёце вярнуўся з Парыжа ў Букарэшт, сталіцу Румыніі і пры помачы ўраду на чале з прэм'ерам Маню, заняў каралеўскі трон, які да гэтага часу займаў яго 7-мі гадовы сын з другой жонкі каралевы Алёны. Народ румынскі зьмену гэту прыняў з „задаваленьнем“. Кароль-жа Кароль II заявіў, што першым яго імкненьнем будзе рэарганізацыя і добрае ўваружаньне арміі.

Газэты пішуць, што аб гэтым перавароце загадзя ве-

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

дала заграніца, а перадусім Францыя, саюзьніца Румыніі. Ходзіць аб тое, каб Румынія мела добрага вайсковага кіраўніка румынскай арміі, з прычыны напружаных адносінаў паміж Румыніяй і СССР.

— У Вене ў Аўстрыі адбыўся зьезд-парлямэнт жанчын усяго сьвету, ў якім брала ўдзел 700 дэлегатак. На зьезьдзе разглядаліся справы: праблема вайны і спакою, пакт Кэльлёга, разаружжаньне, раўнапраўе жанчын, таргоўля жывым таварам, змаганьне з немаральнасьцю і ім падобныя.

— У Фінляндыі ўлады рашуча змагаюцца з камуністычнай прапагандай, закрываючы рэдакцыі, камітэты камуністычныя і г. д. Уладам памагае сялянства.

— Лік савецкіх дыплёматаў, якія ня хочуць вяртацца ў СССР. з каждым днём павялічваецца. Хіба-ж што добра жывецца ў СССР!

— У чэсьць 500-лецьця ад дня сьмерці Вялікага Князя Літоўскага ў Літве ў Коўне сарганізавана вялікая гаспадарча-прамысловая выстаўка, якая мае 60 вялікіх прыгожых павілёнаў.

— У Індыі барацьба за незалежнасьць ня сьціхае, а прымае яшчэ большыя разьмеры.

## Усячына.

**Вылюдненьне Нямеччыны.** Прафэсар грамадзкай гігіены Грот'ян нядаўна ў Бэрліне чытаў лекцыю, у часе якой зазначыў, што, калі ў 1872 г. у Нямеччыне лічба радзінаў на 1000 жых. выпадала 39,5 прац., то ў 1927 г. лічба гэта спала да 18,3 праўда, што такое зьявішча даецца заўважыць у ва ўсёй Заходняй Эўропе, аднак нідзе ў так вялікім разьмеры.

**Дзіця з жабінай галавой.** У Югаславіі ў в. Турэ жанчына радзіла дзіцё, галава якога была падобна да галавы жабы, галава выходзіла проста з тулава, вочы-ж мела на вярху. Дзіця гэта жыло некалькі гадзін.

**Новы рэкорд.** Амэрыканскі лятун Соцек устанавіў новы рэкорд высаты ўзлёту. Ён на сваім лятаку ўзьляцеў на вышыню 13.157 мэтраў і гэтым пабіў амаль не на 400 м. стары рэкорд нямецкага лятуна Нейгофена.

**60 цягнікоў** па 50 вагонаў чорнага хлеба, як пішуць газэты, зьядала ў дзень руская армія ў 1915—18 г.

**2.005.600 жыхараў.** 1 чэрвяня с. г. ў Петраградзе налічалася 2.005.600 жыхараў, з якіх 985.000 мужчын і 1.020 600 жанчын. Лічба гэта цяперашніх жыхароў раўняецца з лічбай жыхароў 1912 г. У 1916-ым-жа г. Петраград меў 2.400 тыс. жыхароў.

**Тэстамэнт Нансэна,** — нядаўна памёршага вялікага швэдзкага вучонага — прызначае чацьвёртую часьць свайго капіталу на мэты навукова-адкрыўчай падполюснай працы. Сума запісу выносіць больш як 90.000 карон.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

**Электрычнае сьвятло і жыта.** Досьледы выявілі, што пад дзеяньнем двух электрычных ламп у сіле 1000 ват. зярнё жыта пасаджана ў зямлю ўзыходзе і даспявае ў працягу 45 дзён.

**Штучны дождж.** 15 г. м. галяндскаму тэхніку Перарту ўдалося вызваць штучны дождж на абшары 3 кілямэтраў.

**250 мэтраў пад вадою.** Сябра зоолягічнага таварыства ў Нью-Ёрку Вілям Бібэ ў часе навуковае экспэдыцыі на Атлянтыцкім акіяне пры помачы спэцыяльных прыладаў апусьціўся пад ваду на 250 мэтраў і гэтым самым пабіў рэкорд; да гэтага часу заглыбляліся толькі на 102 м. Вілям Бібэ быў пад вадою даволі доўгі час і, робячы спасьцярогі пераказваў іх па тэлефону сваім калегам на караблі.

**Нябывалая гарачыня.** Як даносяць газэты 23 г. м. у м. Чыкаго ў Амэрыцы гарачыня даходзіла да 96 градусаў па Фарангайту ў цені. Ад гарачыні памерла 6 асоб.

**Парасё з чалавечай галавой і цялё з сямю нагамі.** У в. Трэстанец, Александрыйскай гм., Роўненскага пав. у гаспадара М. Пракопца сьвіня прывяла некалька парасят з каторых адно з вельмі падобным лычом да чалавечае галавы, заднія-ж ногі уложаны ў форме пальцаў.

У гэтай самай старане у в. Козьмін карова прывяла цялё з 7 нагамі, 2 хвастамі, 1 галавой, 1 сэрцам, 2 грудзьмі, 1 вантробай і 3 ныркамі.

## Наша пошта.

Язэпу Сухадольскаму. Просьбу Вашу спаўняем і пакульшто пісаньняў ня будзем друкаваць, чакаючы больш. Карэспандэнцыю зьмесьцім у наступным нумары. Дзякуем і просім прысылаць больш.

А. Мілевічу. Песьні атрымалі, дзякуем. Будзем старацца выдаць іх брашурай. Ваша праца вельмі карысная для навуковых мэтаў. Каталёг выслалі. Просім пісаць надалей.

С. Гаротнаму. Вершы атрымалі. Здольнасьці да пісаньня Вы маеце, аднак трэба многа працаваць над выробленьнем іх. Трэба чытаць як найбольш беларускае літэратуры. Просім пісаць карэспандэнцыі з Вашае старонкі.

Вясковаму. Карэспандэнцыю атрымалі, дзякуем, зьмесьцім у наступным нумары. Просім пісаць больш.

Тутэйшаму. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем. Карэспандэнцыю, як бачыце, зьмяшчаем. „Успаміны" і другія вершы будзем друкаваць далей ў наступным нумару. Просім не забываць на далей і пашыраць „Шлях Моладзі."

Атрымалі падпіску на „Шлях Моладзі": ад кс. Фр. Чарняўскага з Францыі 15 зл.; Э. Аніські 4 зл.; др Чарнэцкага М., Чарняка Э. па 2 зл. Янушкі Яна 1 зл. Усім шчыра дзякуем, Шлях Моладзі" высылаем.